


**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

**DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)**
**Herausgeber: Wladimir BORTNIK**
**Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.**

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.**

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 47-48 (277-278) | Нядзеля 27 лістапада 1955 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 9



# 1920 — 27 лістапада — 1955



# Слава тым, што памерлі, каб жыла Бацькаўшчына!

35 гадоў таму, над незалежнай беларускай дзяржавай, што была паўстала ў рэвалюцыйныя гады І-ай сьветавай вайны на руінах расейскай імпэрыі, была навісла сьмяротная пагроза зьнішчэньня. Варожыя бальшавіцкія арміі пачалі заліваць край, але не ў занятай яшчэ Случчыне нацыянальны зьезд выявіў агульнанародную наважанасьць бараніць незалежнасьць БНР. Зьезд Случчыны выбраў Беларускую Раду, што ператварылася была ў баёвы нацыянальны штаб збройнага супраціву захопнікам. Мэты дзейнасьці Рады найвымоўней вызначаюць словы дэклярацыі:

**«У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня іх за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе й даверыўшага ёй абарону незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Беларусі, і заяуляе ўсяму сьвету аб тым, што Беларусь павінна быць вольнай, незалежнай рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і выражаючы волю народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі, бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы навет сілаю аружжа».**

Гэты заклік Рады задзіночыў тысячы патрыётаў Случчыны, што дружна былі выступілі 27-га лістапада 1920 году ў няроўнае змаганьне зь пераважаючымі сіламі расейскага бальшавізму. Сялянскія сыны ішлі бараніць родныя беларускія землі пад сьцягамі, на якіх красаваліся вышытыя працоўнымі рукамі іхных матkaў і сёстраў самаахвярныя словы: **«Тым, што паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».**

Слуцкі збройны чын, дарма што адбываўся на абмежанай тэрыторыі, а не на ўсім абшары Беларусі, меў і мае агульнанацыянальнае значэньне, бо ён гэтак, як і векапомны Акт 25-га Сакавіка, выявіў сілу нацыянальнае самаўсьведамленасьці нашага народу, паказаў, што ідэя нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці ператварылася ў дзею. Гэраічныя Случчакі, як першыя зародкі рэгулярных збройных сілаў БНР, змагаліся ў працягу месяцу пад кіраўніцтвам органаў БНР не адно за волю Случчыны, але за волю й незалежнасьць усяе Беларусі. Таму ўгодкі Слуцкага збройнага парыву беларускага народу, угодкі першай ваеннай сутычкі БНР з бальшавіцкай Расеяй стыхійна прыняліся ў нашым народзе, як Дзень Герояў, дзень адданьня чэсьці сотням і тысячам бязіменных мучанікаў, што аддалі сваё жыцьцё ня толькі на полі бою, але і ўва ўсіх катоўнях крывавага бальшавізму. Беларускі народ, гэтак як і ўсе народы паняволеныя расейскім бальшавізмам, злажыў на аўтары змаганьня за свабоду безьліч ахвяраў, але, ня гледзючы на ўсялякія аблудныя махінацыі крамлёўскіх заправілаў, на іхны зьдзек над нашым народам, ён ня паў ніцма перад сілай ворага.

Можна паняволіць, крывава здушыць супраціўы, прымусіць да маўчаньня, але ніколі ня ўдасца ніякаму захопніку ўмяртвіць цэлы народ, здушыць назаўсёды ягоныя глыбінныя нацыянальныя імкненьні. Не дапамогуць аблудныя дэклямацыі аб «брацкай сям'і свабодных народаў» і дэкрэты аб надаваньні «дзяржаўнага гімну» выхваляючага паняволька — ўсё гэтае крывадушнае фарызэйства не патрапіць зацьміць у народнай памяці гэраізму Случчакоў, як сымбалю ідэі запраўднай нацыянальнай свабоды. Праўду кажа камуністычная «Зьвязда» ад 25-га верасьня сёлета, што: «Беларускі народ ніколі не забудзе. што ён абавязан камуністычнай партыі й савецкаму ўраду...» Так, праўда — не забудзе! Ці-ж можа наш беларускі народ забыцца пра разгон бальшавікамі І-га Ўсенароднага Беларускага Кангрэсу, ці можа забыцца пра крывавае здушэньне народнага Слуцкага чыну, масавыя дэпартацыі пэрыяду калектывізацыі, нішчэньне культуры й культурных дзеячаў, руйнаваньне асновы нацыі—працоўнага сялянства, ягонае нячуванае ў гісторыі прыгоннае закабаленьне ў калгасах? Ці-ж не камуністычнай партыі й савецкаму ўраду Беларускі народ забавязаны паняволеньне ўсяго краю, зьнішчэньне ягонай самастойнасьці, нацыянальны, рэлігійны й сацыяльны перасьлед, зьдзек над ягонай мовай, упадабніванай да нейкага расейскага жаргону?

Не, беларускі народ ніколі не забываўся й забыцца пра гэта ня можа! Жыцьцё йдзе ўвесь час наперад і прыйдзе яшчэ час, калі беларускі народ прыпомніць усе гэныя « «дабрадзействы» камуністычнай партыі й савецкага ўраду. Слуція сялянкі выпраўлялі сваіх сыноў, мужоў і бацькоў на змаганьне з ворагам з найвышэйшым запаветам—»Каб жыла Бацькаўшчына». І яна, дарагая, вольная й незалежная Бацькаўшчына жыве ў сэрцах народу, у ягонай сьведамасьці, дарма што ён сілаю часова змушаны да маўчаньня. Гэта ейная жыцьцёвасьць у народзе якраз і прымушае паняволька аблыжна высоўваць псэўда—гімны й псэўда—нацыянальныя сьцягі, каб перакрыць жыцьцёвасьць велічных запаветаў Случчакоў.

Дарэмныя намаганьні! Жыла Бацькаўшчына у збройным Слуцкім чыне, жыве й крывавіцца ў сэрцах, душах і сьведамасьці прыгнечанага народу ў краі цяпер, жыве ў вольнай дзейнасьці беларускай палітычнай эміграцыі й будзе жыць у будучай незалежнай і сувэрэннай Беларускай Народнай Рэспубліцы! Слава гэраічным Случчакам! Слава тысячам базіменных герояў, што аддалі сваё жыцьцё за волю народу!

**А. С.**

# Каб жыла Бацькаўшчына

Была восень. Клёны атрасалі зь сябе апошнія лісьцінкі, што бязгучна адрываючыся з мокрых галінак, ляцелі ўніз, значучы зямлю залатымі водблескамі, накладаючы новы вузор на пацямнелы ўжо дыван. А туманы апускаліся штораз ніжэй, малочна-белай павалокай ахутра[illegible] гаі, поле, вёскі. Восснь - лістапад. Лістапад 1920 году ў Случчыне.

Чаму — ў Случчыне? Ці было йнакш у Віленшчыне, Смаленшчыне, на Палесьсі ці Гомельшчыне? Мо ня было клёнаў, туманоў?...

Неспакойна было ў Случчыне. Праз два апошнія гады яна, як і ўся Беларусь, цярпела на сабе зноў ворагаў — акупантаў. Чаргова — спачатку Расейцаў-бальшавокоў, пасьля — Палякаў. Змагаючыся супраць сябе, толькі ў вадным яны не разыходзіліся — як адны, так і другія згодна таптаалі ўсё беларускае. Не маглі яны пагадзіцца з тым, што Беларусь не хацела ўжо быць забаўкай у іхных руках, што яна вуснамі сваіх сыноў з усіх куткоў яе векапомным Сакавіковым актам абвесьціла сьвету аб сваёй непахіснай волі самой кіраваць сваім лёсам, быць гаспадаром у сябе. І таму Расейцы—бальшавікі з клічамі аб роўнасьці й свабодзе, Палякі зь лёзунгам «За вашу й нашу волю» арыштоўвалі, нішчылі кажнага, хто пасьмеў сказаць, што Беларусь—ня іхная, што яны — акупанты. І таму яны, хочучы пагадзіцца, пачалі ўжо дзяліць Беларусь міжсобку, нясучы ёй новае паняволеньне.

Ізноў сунулася з усходу бальшавіцкая арда. Случчакі пастанавілі: трэба бараніць Рэспубліку. 14 лістапада зьехаліся прадстаўнікі яе ў Слуцак, каб яшчэ раз сказаць сьвету аб сваіх правох. Нядоўга яны радзілі: ня пісалі доўгіх пратаколаў,не спрачаліся за драбніцы. У сваёй рэзалюцыі проста, некалькімі сказамі выразілі ўсё: што гатовы ўсе сілы аддаць на адбудову Бацькаўшчыны — Рэпублікі,што пратэстуюць супраць новага паняволеньня, якое рыхтуюць бальшавікі. Паклікалі зь сябе Раду Случчыны, якой аддалі ўладу й адказнасьць.

Тыдзень пасьля яна заявіла ў сваёй дэклярацыі. што «... дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў, і ў выпадку патрэбы навет сілай аружжа, ня гледзячы на лічбовую перавагу ворага, думаючы, што нашая справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе».

Гэтая патрэба прыйшла — бальшавікі былі ўжо на Случчыне. Вайсковае камандаваньне Рады Случчыны загадала ўзяцца за зброю. І Случчакі пайшлі: кідалі хаты, кідалі матак, сясьцёр, жонак — пайшлі бараніць іх, бараніць краіну.

27 лістапада Першая Слуцкая Дывізія пачала няроўны бой. З сабой панесла сьцяг, вышыты рукамі слуцкіх жанчынаў матак і сясьцёр паўстанцаў. «Тым, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына» — былі на ім словы.

Дык як-жа так? Выходзіць, вышываючы гэты надпіс на сьцязе, слуцкія жанчыны ведалі, што іхныя сыны йдуць на сьмерць. Ня раз мы чулі й чуем аб такіх выпадках, што маці ахвяроўвае сваё жыцьцё ў вабароне дзіцяці ёю ўскормленага, ёю выгадаванага..

Ці можам мы тады ацаніць, ці ў сілах мы навет уявіць тую бязьмежную ахвярнасьць слуцкіх матак, што аддалі найдаражэйшае, бо даражэйшае навет за собскае жыцьцё — каб жыла Бацькаўшчына? Няма меры для гэтае ахвяры, як ня было меры для каханае радзімы ў тых, што пасылалі сваіх сыноў, і ў тых, што йшлі паміраць за яе.

«Тым, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць...» — гэтымі словамі слуцкія жанчыны далі ня толькі знаць, што ведаюць, на што йдуць іхныя сыны. Яны напісалі іх, каб на кажным кроку, гледзячы на сьцяг, сыны—паўстаньцы памяталі: Ідзяце паміраць, мусіце паміраць — каб жыла Бацькаўшчына».

І яны памяталі гэта. Пад Капылём, Цімкавічамі, Вызнамі, пад Быстрыцамі, Верабейчыкамі, Чарнагубавам, Васілішкамі, Дашновам, Лютавічамі, Мацкевічамі, — Першая Слуцкая Дывізія, а зь ёй уся Рэспубліка прыймала баёвы

**(Заканчэньне на 8-ай бачыне)**

# Беларускаю рукою

**ДА 35 ГАДАВІНЫ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ**

Беларускаю рукою
Сьветлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Бацькаўшчыне мілай.

Я. Купала.

Ізноў восень. Разгарэўся сонечнымі днямі баб'яга лета, а тады пагас кастрычнік. У шуме пажоўклага лісьця, у звоне дажджоў надыйшоў лістапад. Месяц, зь якім у Беларусаў зьвязана так шмат успамінаў аб гарачым уздыме, патрыятычнай наважанасьці, беззасьцярожнай ахвярнасьці, геройчным змаганьні за незалежнасьць свайго народу, — успамінаў аб Слуцкіх Змагарох, іхных слаўных перамогах і трагічнай паразе. Як ужо зазначалася даўней, Слуцкае Паўстаньне, якое пачалося было 27 лістапада 1920 году, паводля падрыхтоўкі, арганізацыі й вядзеньня баёў справядлівей было-б называць не Паўстаньнем, а вайною паміж Б. Н. Р. — Беларускай Народнай Рэспублікай і Расеяй. Яно глыбака ўзварушыла нацыянальнае сумленьне шырокіх беларускіх масаў і хвалюе беларускія сэрцы да сяньня. Хоць мінула ад гэнага памятнага лістапада ўжо аж 35 год, падзеі зь ім зьвязаныя не адыходзяць у мінулае, яны жывуць і, трэба думаць, жыць будуць, калі ня вечна, дык напэўна гэтак доўга, як доўга будуць, зьмена па зьмене, нараджацца й сыходзіць у нябыцьцё беларускія пакаленьні. Чаму-ж гэта так? Чаму якраз Слуцкі Збройны Чын, хоць змагарных год выпала на нашую долю за апошняе 35-годзьдзе нямала, так хвалюе нашыя беларускія сэрцы?

Спробы арганізацыі беларускага войска былі і ў 1917-18-19 ды 20 гадох. Былі яны і ў 1942-44 гадох. Усе яны мелі некаторую ўдачу. Ініцыятары згаданых спробаў стварыць беларускую збройную моц ставілі перад сабою тую-ж самую мэту, што й Слуцкія паўстанцы: у змаганьні вярнуць незалежнасьць Беларусі. Адылі, ані тае славы, ані таго водгуку ў беларускім народзе, што Слуцкі Збройны Чын, яны ня мелі. І дзіва тут няма.

У часе выбуху расейскае рэвалюцыі 1917 году беларускія народныя масы былі ўжо нагэтулькі нацыянальна сьвядомыя, што накш і не ўяўлялі разьвязкі свае нацыянальнае справы, як адбудову свае незалежнае дзяржавы. Разумелі яны ўжо дакладна й тое, што ня можна гэтага зьдзейсьніць накш, як толькі пры дапамозе свайго беларускага войска. Аб гэтым аж надта добра сьветчыць беларускі вайсковы рух у расейскай арміі, які пачаў асабліва дужэць і пашырацца ўсьлед за выбухам дютаўскае рэвалюцыі 1917 году. У выніку гэтага руху ўжо ў кастрычніку 1917 г. у Менску адбыўся агульна вайсковы зьезд, які выбраў быў Галоўную Вайсковою Раду, даручыўшы ёй арганізацыю беларускага войска. Аднак, дзеля ваенна-геаграфічнага палажэньня нашага краю й заборчых інстынктаў нашых суседзяў, Галоўная Вайсковая Рада ня выканала ўскладзеных на яе заданьняў. Прастора Беларусі была ў тыя часы, як зрэшты ці раз ужо на працягу гісторыі, адчыненымі наросьцеж варотамі, празь якія з захаду на ўсход і з усходу на захад перакатваліся варожыя нам акупацыйныя арміі чу-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**





# Беларускаю рукою

(Працяг з 1 бачыны)

жынцаў-суседзяў, зьмяняючы адна адну. У пачатку 1918 г. бальшавіцкая акупацыя, саступіла месца акупацыі нямецкай. У канцы гэтага-ж году, пасьля адыходу Немцаў, на Беларусь вярнуўся быў бальшавіцкі акупант. Колькі месяцаў пазьней, на пачатку 1919 г. бальшавіцкіх акупантаў замянілі акупанты польскія. Улетку 1920 году трэйці раз вярнуліся на нашыя землі бальшавікі й гэткім чынам чужыя акупацыі, на працягу колькіх год, як тыя морскія хвалі, пераліваліся праз наш край, нішчачы яго ўшчэнт і тэрарызуючы, а навет і губячы жыхарства. У гэткіх умовах не магло быць і гутаркі аб самастойнай арганізацыі беларускага войска. Ды думка гэтая жыла, а неўзабаве паўстала й спроба зьдзейсьніць яе, калі не сваймі, сіламі дык выкарыстоўваючы для гэтае мэты акупантаў.

Першая спроба выкарыстаньня чужынцаў дзеля арганізацыі беларускіх вайсковых аддзелаў была зробленая ў часе польскае акупацыі 1919-1920 г. г. Уся справа была праведзеная, як належыцца. Быў навет выданы адмысловы дэкрэт галоўнакамандуючага польскае арміі, які дазваляў на легальную арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў на усёй прасторы акупацыі. Быў вызначаны й камандуючы гэтымі аддзеламі ў васобе палкоўніка Канапацкага, ахвіцэра, які меў вялікае вайсковае дазнаньне з год Першае Сусьветнае вайны й быў шчыра й цалкам адданы беларускай справе. Быў арганізаваны таксама штаб падначалены палкоўніку расейскага генэральнага штабу Бародзічу, і Беларуская Вайсковая Камісія — зярнё, зь якога мела вырасьці ў будучыні беларускае міністэрства Вайсковых Справаў.* Але, хоць працы й сілы было пакладзена шмат, ні палк. Канапацкаму, ні Штабу, ні Вайсковай Камісіі дасягнуць большых удачаў не давялося. Сталася гэтак дзеля таго, што акупанты, будучы гаспадарамі палажэньня ў вакупаванай Беларусі і змушаныя для прапаганды свае «талеранцыі» на вонкі дазволіць Беларусам арганізаваць вайсковыя аддзелы, на самай справе ўсімі магчымымі й немагчымымі спосабамі беларускай вайсковай акцыі перашкаджалі.

Пасьля заканчэньня Пальска-Бальшавіцкай вайны й канчальнага зацьверджаньня заходніх межаў Савецкае Беларускае Рэспублікі ў канцы 1920 году, на прасторы БССР пачалася гарачая нацыянальная праца ў кажнай галіне жыцьця. Ня была забытая й галіна вайсковая. У 1922 г. ў Менску пачалася арганізацыя Беларускае Нацыянальнае Дывізіі. Увесь камандны склад згаданае дывізіі, гэтаксама як і жаўнеры, былі вылучна Беларусамі. Пры штабе Дывізіі існавала рэгуляміновая камісія, якая апрацавала й выпусьціла друкам цэлы сьцяг вайсковых рэгулямінаў ды іншых вайсковых падручнікаў у беларускай мове. Службовай мовай у Дывізіі была мова беларуская. Здавалася, што ўсё, як мае быць. У сталіцы Беларусі, Менску, стаіць сваё, беларускае войска. Аднак, няпрошаным «апякуном» Беларускае ССР гэты факт не даваў супакою. І калі ў трыццатых гадох у БССР пачалася жорсткая ліквідацыя г. зв. нацыянальнага ўхілу, была зьліквідаваная й Беларуская Дывізія. Паводля загаду Камісарыяту Вайсковых Справаў з Масквы — яна была расфармаваная, а ўсе ахвіцэры й жаўнеры, ці як іх завуць у Савецкім Саюзе — байцы, былі парассыланыя ў далёкія гарнізоны РСФСР.

Надыйшоў 1941 год. Пачалася Другая Сусьветная вайна. Гітлераўская Нямеччына рынула на Савецкі Саюз і пад імпэтам гэтага неспадзяванага наступу савецкая чырвоная армія ў паніцы пачала не адступаць, а ўцякаць на ўсход. Беларусь апынулася ў другі раз пад нямецкай акупацыяй, гэтым разам пад акупацыяй Намеччыны гітлераўскай. Новыя акупанты Беларусі, атручаныя нацыстаўскімі ідэямі й ап'янелыя неспадзявана лёгкаю перамогаю над савецкай арміяй, ставіліся да беларускага жыхарства пышліва, як істоты непамерна вышэйшыя за яго. Але мінула колькі дзён, тыдняў і акупант пабачыў, што без дапамогі гэтак пагарджанага імі мясцовага жыхарства яны не абыйдуцца. Найперш Немцы пачалі набіраць маладзейшых Беларусаў, нібы паводля прынцыпу «дабраахвотнасьці», у ваддзелы дапаможнай паліцыі. Аддзелы гэтыя, вельмі невялічкія, былі пад камандай вылучна нямецкіх паліцыйных ахвіцэраў. Нейкага значаньня для беларускае справы яны ня мелі й складаліся ў вялікай меры навет не зь Беларусаў.

Гэткі стан трываў у вакупаванай Немцамі Беларусі аж да 1943 г. У пачатках 1943 году пераможная кагадзе нямецкая армія пачала атрымоўваць на ўсходнім фронце што раз часьцейшыя й паважнейшыя паразы. Чым большымі згаданыя паразы ставаліся, тым мякчэйшымі рабіліся нямецкія акупацыйныя ўлады ў дачыненьні да Беларусаў. Гэта спрабавалі выкарыстаць дзеячы зь беларускага актыву. Маючы наўвеце беларускую нацыянальную справу, яны пачалі стаўляць акупантам свае дамаганьні. Ня маючы ўпэўненасьці ў будучыні, адціснаныя бальшавіцкаю арміяй на захад, Немцы наважыліся ўрэшце паклікаць напачатку 1944 году Беларускую Цэнтральную Раду (БЦР), дазваляючы ей арганізаваць шляхам мабілізацыі Беларускую Краёвую Абарону (БКА). Згодна дамоўленасьці БЦР зь нямецкім камандваньнем, БКА арганізавалася дзеля змаганьня з бальшавіцкімі партызанамі; Беларусы, адылі, лучылі ізь ейным паўстаньнем шмат шырэйшыя патаёмныя надзеі. Арганізацыя Беларускае Краёвае Абароны пачалася зараз-жа пасьля абвешчаньня ў дні 10 сакавіка 1944 г. адмысловага дэкрэту прэзыдэнта БЦР аб мабілізацыі колькіх гадавікоў Беларусаў у БКА. Дэкрэт гэты быў разасланы ў ўсе куткі Беларусі, дакладней кажучы, па ўсёй прасторы, што была падначаленая Генэральнаму Камісарыяту Беларусі. Водгук на яе беларускіх масаў быў нязвычайны. Ня толькі прызываныя гадавікі, але людзі рознага веку, у вялізарнай бальшыні — беларускія сяляне. масава пацягнулі ў прыймовыя лекарскія камісіі. Ужо праз два тыдні былі сфармаваныя 44 батальёны пяхоты й 11 батальёнаў сапэраў у складзе ад 800 да 1200 чалавек у кажным: а блізу гэткую-ж колькасьць людзей давялося адправіць да хаты.

Апрача гэтага ў Менску была арганізаваная ахвіцэрская школа, а ў вакругах — школы падахвіцэрскія. Гэтак на працягу колькіх тыдняў паўстала была цэлая беларуская армія. Гэткая ўдача праведзенай Беларусамі мабілізацыі ў свае вайсковыя аддзелы была вялікаю й прыкраю неспадзеўкаю для нямецкіх акупацыйных уладаў. Яны моцна спалохаліся энтузіязму, зь якім Беларусы прыступілі да арганізацыі свайго войска. Адмяніць дадзены кагадзе загад было, аднак, нязручна й Немцы наважылі папросту сабатаваць беларускі вайсковы рух, дзе і як мага. Згодна дамоўленасьці зь Генэральным Камісарыятам Беларусі, Немцы ўзялі на сябе абавязак азброіць БКА. Тым часам, хоць мінала ўжо колькі тыдняў ад заканчэньня мабілізацыі, Немцы зброі не давалі. Людзі ў батальёнах пачалі нецярпліўіцца, наракаць, падазраваць з боку Немцаў нейкае ашуканства. Пачатны гарачы энтузіязм шмат у каго зьмяніўся настроямі, блізкімі да дэмаралізацыі. Былі, нават, выпадкі дызэрцыі. Тады беларускія дзейнікі рашуча зажадалі ад нямецкіх уладаў, каб тыя якнайбарждкэй далі беларускім батальёнам абяцаную зброю, накш — БКА будзе распушчаная. Палажэньне Немцаў на акупаваных прасторах Беларусі было ў тыя часы ўжо нагэтулькі няпэўнае, што Немцы, запраўды баючыся дэмабілізацыі БКА, якая адна магла даць рады бальшавіцкай партызанцы, абяцалі прыдзел зброі паскорыць. І вось, зброя пачала неўзабаве прыбываць. Складалася яна зь невялікае колькасьці стрэльбаў. Ды патайны нямецкі сабатаж выявіўся тут яшчэ выразьней: стрэльбы былі самых разнастайных сыстэмаў, веку й паходжаньня — нямецкія, расейскія, францускія, італьянскія, а навет галандзкія. Гэтаксама розная была амуніцыя. Часта здаралася, што ў батальён прысылалі стрэльбы, скажам, італьянскія, а амуніцыю — расейскую й наадварот. Падзяліць гэткую розную зброю, ды яшчэ недастатковую калькасна, паміж жаўнерамі аднае тае самае адзінкі было справай нялёгкай.

Галоўнае Камандваньне БКА было таксама ў вельмі цяжкім становішчы. Немцы не далі яму аніякіх тэхнічных сяродкаў камандваньня. Навет, калі ў той ці іншы батальён трэба было выслаць пасланца, па дакументы для яго трэба было зварочвацца да нямецкага штабу. Да кажнага беларускага батальёну, апрача ўсяго гэтага, быў прыдзелены нямецкі ахвіцэр сувязі, які кантраляваў кажны крок, а навет кажны нутраны загад камандзеру батальёну. Практычна, беларускае камандваньне было цалкам зьвязанае. Гэткае палажэньне не магло існаваць надаўга. Урэшце рэштаў яно мусіла-б скончыцца — і вельмі трагічна — як для БКА, гэтак і для Немцаў. Але лёс сам зрабіў канцы ўсёй справе.

У другой палове чырвеня 1944 году нямецкая армія пачала адступаць з прастораў Беларусі. У вапошніх днях чырвеня Немцы пакінулі Менск. Мусілі адыходзіць зь Немцамі на захад і беларускія батальёны. Праўда, невялікая частка стральцоў, ня важачыся пакінуць родныя загоны, няпрыкметна разыйшлася па сваіх вёсках. Іншая, найбольш нацыянальна сьведамая й наважаная змагацца з бальшавікамі да канца, пайшла ў лясы, творачы там моцныя аддзелы нацыянальнае беларускае партызанкі. Усё-ж, большая частка батальёнаў БКА апынулася неўзабаве ў Нямеччыне. БЦР і Галоўнае Камандваньне БКА былі эвакуаваныя зь Менску ў Бэрлін.

Апынуўшыся на чужыне, беларускі актыў ня кінуў, адылі, думкі працягваць змаганьня з бальшавіцкай арміяй, цяпер ужо не ў вабароне, а за вызваленьне паняволенай бацькаўшчыны. Дзеля гэтага ўсе намаганьні й былі найперш ужытыя на сфармаваньне з батальёнаў БКА, якія знайшліся ў Нямеччыне, баяздольных вайсковых адзінак, каб ужыць іх пры нагодзе супраць савецкай арміі. Пасьля доўгіх і вельмі цяжкіх перамоваў зь нямецкімі вайсковымі ўладамі, быў атрыманы дазвол арганізаваць дывізію, якая мела быць ужытая вылучна супраць савецкай арміі. Дывізія гэтая, названая дывізіяй «Беларусь», і была зарганізаваная на глухой баварскай правінцыі, але — пад нямецкім камандваньнем. Гэта, пэўне, й было прычынай таго, што справы ў дывізіі не пайшлі добрай дарогай. Сярод ахвіцэраў і падахвіцэраў, якія ўвайшлі ў ейны склад, блізу ад першых дзён пачало расьці незадаваленьне. Тымчасам, да раёну, дзе дывізія фармавалася, што раз бліжэй падыходзіў не бальшавіцкі, а заходні фронт. Баючыся, наўсуперак усім нямецкім прырачэньням, быць усё-ткі кіненымі ў змаганьне супраць Англа-Амэрыканцаў, Беларусы пачалі з дывізіі дызэртаваць. Каб ратаваць дывізію і захаваць яе ў цэласьці, у сакавіку 1945 году ў дывізію прыбыў камандуючы БКА. Тымчасам, выпадкі разгортваліся вельмі хутка.

У пачатку красавіка 1945 году дывізія «Беларусь» атрымала загад маршу ў кірунку Тыролю. Нямецкае камандваньне дывізіяй удзелу ў маршы, аднак, не ўзяло, ня лічачы ахвіцэраў сувязі пры батальёнах. Гэткім чынам, ініцыятыва перайшла, нарэшце, у рукі камандуючага БКА. Калі дывізія дасягнула мясцовасьці. Айзэнштайн, камандуючы БКА пазбыўся й згаданых нямецкіх ахвіцэраў сувязі. З гэтае часіны дывізія «Беларусь» пачулася запраўды вольнай беларускай адзінкай. Радасьць з гэтае нагоды была, адылі, вельмі недаўгая. Палажэньне дывізіі ставалася крытычным. Машыраваць на ўсход было немагчыма, дзеля далёкае адлегласьці ад усходняга фронту, вельмі варожага настаўленьня шматлікіх у ваколіцы аддзелаў нямецкіх войскаў СС і блізіні амэррыканскага фронту зь ягоным лятунствам, якое безаглядна нішчыла кажны рух на тылох нямецкае арміі. Іншага выхаду ня было, як паддацца амэрыканскай арміі, што дывізія «Беларусь» і зрабіла, прабіўшыся праз нямецкі фронт у раёне Цьвізэлю 30 красавіка 1945 г.

Камандваньне амэрыканскай арміі, ня гледзячы на ўсе тлумачэньні й довады, аніяк не зразумела жаданьня Беларусаў змагацца із сваймі панявольнікамі — бальшавікамі, і, палічыўшы дывізію нямецкім саюзьнікам, раззброіла яе й загнала за дрот.

Гэтак, дзякуючы няпрыхільным дачыненьням акупанта да беларускае вайскавае справы, была змарнаваная нязвычайная нагода арганізаваць беларускае войска ў часох Другое Сусьветнае вайны. Із пакліканых у БКА ў 1944 годзе пяцідзесяцёх тысяч Беларусаў, тымчасам, можна было-б арганізаваць пяць поўных дывізіяў. А каб дывізіі гэтыя былі яшчэ й належна азброеныя, бальшавікі не занялі-б так лёгка нашае Бацькаўшчыны, як гэта яны зрабілі ўлетку 1944 г.

Усё-ж БКА пакінула па сабе вялікую й вельмі паважную спадчыну — нацыянальную беларускую партызанку ў Беларусі. Аб моцы й добрай арганізацыі гэтае партызанкі сьветчаць справаздачы нямецкіх ваеннапалонных, што вяртаюцца апошнім часам з Савецкага Саюзу, дзе яны адпакутвалі ў палоне ці мала год. Паводля іхных сьветчаньняў, яшчэ ў 1949 годзе беларуская партызанка была нагэтулькі магутная, што партызаны наважыліся напасьці на турму ў сталіцы БССР — Менску, каб вызваліць зь яе трыманых там бальшавікамі палітычных зьняволеных. У выніку гэтага нападу, паміж партызанамі й чырвонаармейцамі, расказваюць Немцы, завязаўся быў запраўдны бой. І нашыя партызаны й Менскі гарнізон мелі немалыя ахвяры забітымі й раненымі. Партызаны, аднак, пераможаныя ня былі й, хоць ня мелі ўдачы, патрапілі адыйсьці ў лясы, скуль і да сяньня змагаюцца з панявольнікамі нашае Бацькаўшчыны.

Прыгаданыя вышэй тры прыклады спробаў арганізаваць беларускае войска пры дапамозе трох розных акупантаў Беларусі, аж надта вымоўна сьветчаць пра тое, што гэтаю дарогаю ня ўдасца нам нічога дасягнуць і ў будучыні.

Слуцкае Паўстаньне 27 лістапада 1920 году, наадварот, ёсьць для нас прыкладам правільнага, адзінага шляху, які можа нас прывесьці да мэты. На параўнальна невялічкай прасторы Слуцкага повету, які адно на кароткі час вызваліўся ад гнёту акупантаў, Слуцкія патрыёты патрапілі на працягу тыдняў арганізаваць дзесяцітысячную Слуцкую Брыгаду. 27 лістапада 1920 году, 35 год таму, Брыгада гэтая пачала змаганьне з бальшавіцкай арміяй, баронячы родную зямлю ад новага паняволеньня і ня гледзячы на вялізарную пераваігу ўсходняга ворага, гераічныя Слуцкія змагары патрапілі паўстрымоўваць бальшавіцкі наступ на працягу шасьцёх тыдняў.

Слуцкі Збройны Чын сьветчыць і шмат аб чым яшчэ — аб арганізацыйных здольнасьцях беларускага народу, аб ягоных жаўнерскіх вартасьцях, аб ягонай ахвярнасьці для справы змаганьня за незалежнасьць Бацькаўшчыны. Ён лепш за ўсё пераконвае нас, што народ паняволены, народ, над якім стаіць акупант-чужынец, ніколі не патрапіць выявіць у ўсёй паўніні сваіх прыродных здольнасьцяў. Стварыць вартаснае й вялікае, што прынясе яму вызваленьне, патрапіць адно беларускаю рукою сам Беларускі Народ.

**Ф. Кушэль**

---

*) Глядзі артыкул «Ад Менску да Лодзі» ў газ. «Беларусь» за 1952-1953 г.г., № 15 (21) — 1 (25).



# АБ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ НА ЭМІГРАЦЫІ

**АД РЭДАКЦЫІ: Ужо закончаны друк даўно абяцанага альманаху твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў «Ля чужых берагоў», які ў хуткім часе будзе разасланы нашым Прадстаўніцтвам дзеля прадажы. Каб перад гэтым зарыентаваць нашых чытачоў, што ён зь сябе прадстаўляе, ніжэй перадрукоўваем кароткі ўступны артыкул да гэтага альманаху.**

*

О, Беларусь, хай так,
мы зь верай
Цябе і ў далеч панясём!

Гэтыя словы нашай выдатнай паэткі на эміграцыі, Натальлі Арсеньневай могуць добра служыць за мото ўсяе нашае эміграцыйнае літаратурнае творчасьці, бо яны праўдзіва адлюстроўваюць тыя шляхотныя заданьні, якія ўзяла на сябе нашая палітычная эміграцыя, у дадзеным прыпадку — паэты й пісьменьнікі. На іхную долю выпала ў песьнях і мастацкіх вобразах несьці ў далеч Беларусь, у думках вольную ў вольны сьвет, бо на Бацькаўшчыне, дзе ўладае цемра й жахлівае нявольніцтва, яна паняволеная, узьлёты вольнае думкі скаваныя, прыгожыя імкненьні народу патаптаныя, ягоныя нацыянальныя сьвятасьці апляваныя. Толькі на чужыне, дзе ўдалося знайсьці прыпынак маленькай жменьцы беларускага народу — ягонай палітычнай эміграцыі, асталася магчымасьць захоўваць цягласьць нашай нацыянальна-вызвольнай ідэі і, хоць у сьціплых разьмерах, разьвіваць і тварыць нашыя нацыянальныя культурныя цэннасьці, якія будуць некалі прынесеныя ў вольную Беларусь, каб там запоўніць пустое месца, паўсталае ў найчарнейшыя гады бясприкладнага нявольніцтва. Бо ўся сяньняшняя літаратурная прадукцыя на Бацькаўшчыне, хаця й багатая колькасна ды размавітая сваімі жанрамі й формамі, ёсьць пазбаўленая, як і ўсе іншыя зьявы культуры, беларускае душы і поўнасьцю пастаўленая на службу акупанту.

Першыя гады пасьля заканчэньня апошняй вайны ня былі спрыяльнымі для разьвіцьця беларускае мастацкае літаратуры на эміграцыі. Нашыя суродзічы, расьцярушаныя па ўсёй Заходняй Нямеччыне і ў іншых краінах эўрапэйскага Захаду, вялі ў гэтым часе няпэўнае і часовае жыцьцё, будучы спачатку загрожаныя прымусовай рэпатрыяцыяй, а пазьней, калі рэпатрыяцыйная небясьпека мінула, былі падхопленыя агульнай хваляй масавага эміграваньня ў краіны сталага пасяленьня й працы. Такая атмасфэра, рэч ясная, не магла спрыяць літаратурнай творчасьці. З другога боку, першыя паваенныя гады разьвіваліся пад знакам фармаваньня грамадзкай і палітычнай думкі ды нутранай кансалідацыі нашай эміграцыі, якая, апынуўшыся ў новых умовах жыцьця, павінна была нанова сканкрэтызаваць і аформіць свае палітычныя нацыянальна-вызвольныя пазыцыі, выпрацаваць новы стыль жыцьця грамадзкага. Пытаньні літаратурнай творчасьці сталі на заднім пляне.

Трэба паставіць у лік немалых заслугаў нашых літаратурных сілаў, што і ў гэтыя няпэўныя гады яны ня толькі не пакідалі думкі аб патрэбе наладжаньня літаратурнага жыцьця, але й рабілі саматужна канкрэтныя спробы ў гэтым кірунку. Адцемім хоць-бы выданьне ў 1947—48 гг. стараньнем пісьменьніка Васіля Бірыча трох вялікіх сшыткоў саліднага літаратурнага часапісу «Сакавік», або зарганізаваньне ведамым пісьменьнікам Юркам Віцьбічам літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына» й выдаваньне на працягу некалькіх гадоў добра рэдагаванага й цэннага літаратурнага часапісу пад тымжа назовам «Шыпшына». Тады-ж пачалі паяўляцца й некаторыя іншыя, праўда, кароткавечныя літаратурныя часапісы, ды было выдадзена і некалькі зборнікаў паэзіі. Але ўсё гэта, як успаміналася, ня мела ані сталага характару, ані выразнай пэрспэктывы.

Палажэньне зьмянілася на лепшае пасьля 1950—51 гг., калі працэс масавага эміграваньня за акіян закончыўся, а тыя, што выэміגравалі, змаглі ўладзіцца і распачаць больш менш сталае арганізацыйнае жыцьцё ў краінах новага пасяленьня. Беларуская эміграцыйная грамадзкасьць уступіла тады ў працэс творчае працы ў розных галінах нацыянальна-палітычнага, грамадзкага й культурнага жыцьця, у тым ліку — і ў галіне літаратурнае творчасьці.

Да актывізацыі літаратурнага руху выдатна прычыніўся тыднёвік «Бацькаўшчына», які ад 1952 г. увёў на сваіх бачынах сталы «Літаратурны дадатак» і да супрацоўніцтва прыцягнуў бадай што ўсе нашыя літаратурныя сілы на чужыне. Літаратурным пачынаньням наймалодшых аўтараў верна служылі часапісы беларускае моладзі «Наперад» і «Моладзь». Ад 1954 году пачаў выходзіць у Нью Ёрку салідны й добра пастаўлены літаратурна-мастацкі часапіс Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва «Конадні», які згуртаваў вакол сябе ўсіх выдатнейшых эміграцыйных паэтаў, пісьменьнікаў, мастакоў і літаратурных крытыкаў ды мае ўсе дадзеныя згуляць правадніцкую ролю ў нашым літаратурным жыцьці на чужыне.

Паэты й пісьменьнікі, творы якіх трапілі ў гэты альманах, усе бяз вынятку належаць да новай эміграцыі. Апошняя вайна й паўторная акупацыя Беларусі бальшавікамі выкінула іх на чужыну, дзе яны, як і наагул беларускія эмігранты, знайшлі сабе прыпынак у Эўропе, Паўночнай і Паўдзённай Амэрыцы ды Аўстраліі. Амаль усе яны пачалі пісаць яшчэ на Бацькаўшчыне, а некаторыя, як Натальля Арсеньнева й Юрка Віцьбіч, былі ўжо там шырока ведамымі й агульна прызнанымі. Там яны годна дзялілі лёс усіх перадавых ахвярных змагароў за народную справу, аб чым сьветчыць факт, што бальшыня абнятых гэтым альманахам аўтараў — гэта былыя вязьні савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў. Гэта сталася аднэй з прычынаў, што ў іхнай сяньняшняй творчасьці, разьвіванай на эміграцыі, захавалася шчырая й беспасярэдняя лучнасьць з родным краем.

З гледзішча тэматычнага творчасьць нашых эміграцыйных аўтараў канцэнтруецца галоўным чынам на адных і тых-жа мамэнтах, якія зьяўляюцца галоўным прадметам паэтычных

# Ці зьмянілася што-небудзь?

Пачынаючы ад сьмерці Сталіна, гэтае пытаньне ня зыходзіць із шпальтаў заходняе прэсы, калі справа тычыцца Саветаў. Задаюць яго ня толькі журналістыя: яго можна пачуць ад дыпляматаў і экспэртаў у савецкіх справах, а далей ужо яно ўсеагульна пашыраецца і ў масах. Пры гэтым, ясна, кажны разьвязвае яго пасвойму, і можна пачуць самыя розныя адказы. Прыгледзеўшыся аднак бліжэй, ува ўсіх такіх адказах, можна знайсьці адно супольнае: пачынаючы ад славутае маленкоўскае «адлігі» ўва ўсіх дачыненьнях полажэньне ў Саветах палепшала, рэжым злагаднеў, матар'яльнае забясьпечаньне насельніцтва паправілася ды наагул, калі выслявіцца пасавецку, «жить стало лучше, жить стало веселей». І толькі лічаныя цьвярозыя адзінкі ды запраўдныя знаткі савецкай рэчаіснасьці час ад часу здабываюцца яшчэ на сьмеласьць выліць кубак сьцюдзёнае вады на распаленыя галовы энтузіястых савецкае звалюцыі. Гэтыя-ж апошнія зьдзіўлена паглядаюць на антыкамуністычную эміграцыю ды штораз часьцей зь нявіннай мінай ды дзіцячай наіўнасьцяй напоў пытаюць, напоў сьцьвярджаюць: «Дык што-ж, цяпер хіба вы ўжо можаце спакойна ехаць дадому?» І ніякай зласьлівасьці ці варожасьці ў гэтым няма — тут проста людзкая няведа.

А што-ж думае эмігрант? Той, што ўжо за акіянам ды заняты сваімі справамі, наагул аб гэтым мала думае, а калі й думае, дык разглядае гэтае пытаньне, як пабочнае, якое яго беспасярэдня ня тычыцца. Іншыя, як хто: адныя абсалютна ня вераць у ніякія зьмены ў Саветах; іншыя думаюць, што зьмены адбыліся й адбываюцца даволі паважныя, але не настолькі, каб можна было рызыкаваць вярнуцца дадому.

На нашу думку, перш чымся выказваць свой пагляд, трэба перадусім удакладніць, што мы разумеем пад паняцьцем «зьмена». Мы, эмігранты, зусім аўтаматычна, і гэта поўнасьцяй зразумела, думаючы аб зьменах у Саветах, перш за ўсё ставім сабе пытаньне: палепшала там ці не? Зрэшты і заходняе грамадзтва, супакой ці напружаньне якога залежыць ад таго ці іншага савецкага ходу, ставіць пытаньне ў такі самы спосаб. У выніку атрымоўваецца пераблытаньне паняцьцяў. Заместа ўзважыць, **што** тая ці іншая зьмена азначае ў сутнасьці, і якія пасьлядоўнасьці яна можа мець у будучыні, мы гарачкова ўзважваем яе толькі з гледзішча на ейную выгаднасьць для нас і нашага народу. А так, як чалавек заўсёды, хоць-бы сабе й падсьведама, хутчэй бачыць тое, што яму падабаецца, дык і ня дзіва, што бываюць часамі выпадкі, калі дадзеная зьмена ня мае нічога супольнага з палепшаньнем ці пагоршаньнем жыцьця ў СССР, а мы ўсё-ж пачынаем бачыць нешта лепшае.

Вось-жа трэба сьцьвердзіць, і з гэтым хіба ўсе згодзяцца, што за апошнія гады ў Саветах адбылося падзеяў і зьменаў даволі шмат. Сьмерць Сталіна, Маленкоўскі «нэп», «раскулачаньне» Бэрыі ды ліквідацыя яго, калектывізацыя кіраўніцтва, маленкоўскае каяньне, хрушчоўская цаліна й кукурузацыя ды нарэшце «жэнэўскі дух» — гэта, бязумоўна, падзеі, якія выклікалі той ці іншы рэзананс, такія ці гэтакія зьмены. Але ці прынесьлі яны якую-небудзь папраўу ў жыцьці насельніцтва?

Разгледзьма коратка гэтае пытаньне, пачынаючы ад гораду. Перагледзеўшы менскую (а яна ясна нічым ня розьніцца ад прэсы іншых рэспублікаў), мы магчыма заўважым пару фатаграфіяў нова пабудаваных дамоў, якія разглядаюцца як вялікія, рэспубліканскага значэньня, дасягненьні. А апрача гэтага? З артыкулаў, дапісак, лістоў у рэдакцыю ды справазданьняў вее адным і тым-жа самым, безнадзейным і бясконцым: кепска наладжаны транспарт, недастатковая каналізацыя, нястача кватэраў, пустыя магазыны, спэкуляцыя, круцельства і бюракрацыя; на хвабрыках — пляны, пляны ды нагонка да выконваньня іх і перавыконваньня.



А што-ж у калгасах? На гэтым фроньце таксама бязь зьменаў, калі ня лічыць прымусовае кукурузацыі, якая, хай сабе што ні думае Хрушчоў, не палепшыць долі калгасьніка. І тут таксама надаедлівыя лёзунгі, «выканаць» і «перавыканаць» ды адпаведная нагонка ў гэтым кірунку, хоць, як відаць із карэспандэнцыяў і справазданьняў, яна не заўсёды дапамагае, і рэальныя вынікі з плянамі далёка разыходзяцца. Жыцьцё калгасьніка, як і перад гэтым, рэгулюецца на працягу ўсяго году трымя галоўнымі цыклямі напружаньня: вясеньні сеў, збор ураджаю ды здаваньне дзяржаве паставак. У савецкай прэсе ўсе гэтыя цыклі адлюстроўваюцца, як на экране. Веснавыя нумары «Зьвязды», прыкладам, запоўненыя артыкуламі тыпу «Датэрмінова выканаць плян веснавога севу», «Пашырыць плошчы засеву кукурузы», «Павысіць тэмпы веснавога севу» і інш.; увосень гэтая-ж «Зьвязда» спачатку заклікае: «У час сабраць пасевы!», «Выканаць плян збору!», а пасьля ня толькі заклікае, але ўжо зьдзекуецца: «Хлеб дзяржаве», «Бульбу дзяржаве», «Гародніну дзяржаве», іншымі славамі — усё дзяржаве. А што-ж калгасьніку? Гэтым ужо ні тая «Зьвязда» ні дзяржава не клапоцяцца, як і наагул ніколі не клапаціліся.

Вышэй сказанае — гэта толькі маленькая крошка, якая паказвае, што ў штодзённым жыцьці насельніцтва нічога не зьмянілася й не палепшылася. Але затое наадварот — ёсьць шмат дадзеных, якія паказваюць на тое, што палажэньне яшчэ навет пагоршылася. І так, прыкладам, сёлета ўвесь час вяляся й вядзецца кампанія за як найбольш рацыянальнае выкарыстаньне працоўных кадраў .З працоўнай сілай у БССР вельмі скупа. «Дабравольныя выезды» на цаліну, бязумоўна, хоць можа і ў ня вельмі вялікай ступені, аднак гэтую скупасьць пабольшваюць. А тым часам увядзеньне такой працаёмкай культуры, як кукуруза, якраз патрабуюць збольшаньня працоўнае сілы. У выніку — навет на найцяжэйшыя працы даводзіцца пасылаць жанчын. Хопіць глянуць на здымкі тае-ж савецкае прэсы: мы ўбачым жанчын, што цягаюць цэглу пры будове дамоў, мы ўбачым іх у машына-будаўнічых цэхах, пры камбайнах і г. д. Бязумоўна, ніхто тут не паверыць, што гэта вынік ураўнапраўненьня жанчын з мужчынамі.

Некаторыя заходнія назіральнікі, прабыўшы пару тыдняў у СССР, часам пішуць, што ўсё-ткі матар'яльны бок жыцьця ў СССР значна палепшаў у параўнаньні з перадваенным пэрыядам. На задакумэнтаваньне сваіх вывадаў яны зьмяшчаюць фатаграфіі, дзе можна бачыць прыстойна, ледзь не пазаходняму апранутых дамаў, тлустых грамадзян, што праводзяць свае вакацыі на курортах паўдня, ды здаровых жыцьцярадасных дзяцей у дзіцячых дамох. Нам ведама, дзе падобныя фатаграфіі робяцца. Але й таксама ведама, што ёсьць і іншы бок рэчаіснасьці. Вось паглядзем на гэтыя тры фатаграфіі зьмешчаныя тут. Гэта аўтэнтычныя здымкі, зробленыя сёлета ў Стаўпецкім раёне. Камэнтары да іх хіба непатрэбныя. Мы бачым, наколькі розьняцца гэтыя калгасьніцы ад тых



маскоўскіх дамаў, бачым «жыцьярадаснасьць» калгасных дзяцей...

Яшчэ іншыя кажуць, што хоць фактычна стандарт жыцьця не зьмяніўся, але ўсё-ж рэжым злагаднеў. І як довад, прыводзіцца апошняя амнэстыя, некаторыя палёгкі ў канцэнтрацыйных лягерах, свабаднейшая крытыка ў прэсе і г. д.

Што дала амнэстыя? Нельга забывацца, што гэта быў крок выкліканы чыста палітычнымі і прапагандовымі меркаваньнямі, гэта адзін з шматлікіх тактычных ходаў, якімі звычайна карыстаюцца бальшавікі. А да гэтага — гэта толькі аднаразовы акт, зь якога можа скарыстала колькі тысячаў засуджаных. Але-ж тут зусім няма ніякае гарантыі, што амнэстыяваны ня будзе пасьля пазбаўлены свабоды паводля іншага параграфу карнага кодэксу ці навет паводля таго самага. У самым-жа кодэксе ніякіх зьменаў ня ўведзена, ён і далей застаецца зброяй камуністычнае партыі, як бальшавікі самі аб ім выражаюцца.



Што да палёгкі ў канцэнтрацыйных лягерах, дык яе вельмі добра характарызуе адна карыкатура зь якогась заходня-эўрапэйскага часапісу. Там з аднаго боку дроту нарысаваныя два, як шкілеты, кацэтнікі, з другога — таўстыя змвэдысты, які ўсьміхаецца да вязьняў. І тут-жа зьдзіўленая рэпліка аднаго з кацэтаўцаў: «Глядзі, Ігар, ён да нас усьміхаецца?» Гэта ўсё. І найхутчэй, што **толькі** ўсьміхаецца, а гэтага яшчэ далёка замала.

Аргумэнт аб свабаднейшым тоне крытыкі ў савецкім друку таксама мае сумлеўную, а то й ніякае вартасьці. Хопіць толькі павярхоўна перагледзець гэтую крытыку, каб зразумець, што яна зьяўляецца таксама аднэй, і то не апошняй па вазе, камуністычнай зброяй. Што-ж там крытыкуецца? Нявыкананьне пляну, кепская арганізацыя якоесь установы ці прадпрыемства, заслабая разгорнутасьць агітацыі ў тэй ці іншай дзялянцы, антыграмадзкія дачыненьні да дзяржаўнае маемасьці, — інакш — усё тое, што шкодзіць ці прынамся ня прыносіць карысьці дзяржаве. Крытыкі фактычнага віноўніка ўсяе нядолі насельніцтва, камуністычнае партыі, мы там ня ўбачым. Там, прыкладам, можна да бесканцовасьці срога крытыкаваць старшыню калгасу за няўдалы ўраджай кукурузы, але затое крытыкаваць найбольшага няўдачніка гэтае культуры — Хрушчова — ніхто не пасьмее. Падобных прыкладаў савецкая рэчаіснасьць штодзённа дастаўляе цэлыя масы.

Ёсьць таксама й такія, што свае аргумэнты аб зьмякчэньні рэжыму базуюць на апошніх дыпляматычных ходах бальшавікоў у інтэрнацыянальнай палітыцы. Як прыклад, тут падаецца дапушчэньне ў СССР шматлікіх групаў заходніх турыстых, «жэнэўскі дух», прыяцельскія ўсьмешкі савецкіх дыпляматаў і г. д. Але што-ж тут адно з другім мае супольнага? Ні прыемныя ўспаміны заходняга турыстага з Масквы ці Ленінграду, ні пышныя прыняцьці ў Крамлі ў чэсьць прадстаўнікоў Захаду, ці прыяцельскія ўсьмешкі савецкіх дыпляматаў на такіх-жа прыняцьцях у сваіх калегаў на Захадзе ні на капельку не мяняюць палажэньня работніка, калгасьніка, інтэлігента і, тым больш, вязьня канцэнтрацыйнага лягеру.

Падсумоўваючы вышэй сказанае, мы не запярэчваем, што ў СССР абсалютна няма ніякіх зьменаў. Але адразу-ж падкрэсьліваем, што ўсе тыя зьмены, якія да гэтага часу адбыліся й адбываюцца, аб якіх найбольш гаворыцца і на якія найбольш пакладаецца надзеяў, ня маюць нічога супольнага з палепшаньнем палажэньня шырокіх масаў насельніцтва, як з гледзішча матар'яльнага, так і з гледзішча асабістае й палітычнае свабоды.

Праўда, у рамках толькі газэтнага артыкулу мы ня можам больш падрабязна разгледзець гэтага пытаньня за адзін раз. Тут нічога не ўспамінаецца пра такія важныя галіны, як мастацтва, літаратура, навука і іншыя галіны духовага жыцьця, якія ня раз навет у цяжкія пэрыяды нядрэнна разьвіваліся. Думаем, што ў будучых нумарох «Бацькаўшчыны» гэтае пытаньне будзе парушацца, хоць з упэўненасьцяй можна сказаць, што ў Саветах за пошнія гады і ў гэтай галіне ня здарылася нічога пацяшальнага — наадварот, усе гэтыя галіны занепадаюць пад ціскам ня толькі сацыялістычнага зьместу, але й расейскае формы калі йдзе аб нерасейскія народы.

**А. Галубіцкі**

## Беларускія спэцыялістыя атамнае энэргіі на міжнароднай канфэрэнцыі

У ліпені сёлета ў Жэнэве адбылася міжнародная канфэрэнцыя навуковых працаўнікоў у атамнай галіне. Сярод шматлікіх дэлегацыяў бадай з усяго сьвету былі таксама прадстаўнікі беларускае навукі з паняволенае Беларусі, якая толькі й была прадстаўлена спасярод усіх савецкіх рэспублік.

Беларускімі навукоўцамі на Жэнэўскай канфэрэнцыі былі пададзены два навуковыя даклады:

1) «$C^{14}$ у вывучэньні біясынтэзы хлярафілю» (рэфэрэнты — Т. Годнеў і А. Шлык) і

2) «$C^{60}$ ды ягоны ўдзел у вывучэньні ролі кобальту, як мікра-элемэнту ў ваджыўленьні расьлін» (рэфэрэнт — А. Кедраў-Зыхман).

Гэтыя дадзеныя былі зьмешчаны ў спэцыяльным выданьні з нагоды жэнэўскае навуковае канфэрэнцыі. Для зацікаўленых ніжэй падаем бібліяграфічныя дадзеныя аб гэтай кнізе:

A Forum survey. World development of atomic energy. Выдавецтва: Atomic Industrial Forum, Inc., 260 Madison Ave, New York 16.

**НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА БЕЛАРУСА НА ЧУЖЫНЕ, ЯКІ-Б НЯ БЫЎ ПАДПІСЧЫКАМ, ЧЫТАЧОМ І ПАШЫРАЛЬНІКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» І ЕЙНЫХ КНІЖНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ!**

---

перажываньняў і ўзбуджаюць сільную творчую рэакцыю. Гэта наступныя тэматычныя камплексы: падзеі з паднявольнага жыцьця на Бацькаўшчыне, якія найчасьцей паказваюць тыповыя там і трагічныя ў сваей жахлівасьці выпадкі, калі або самі аўтары, або іхныя гэроі трапляюць у сутык з усёмагутным НКВД і робяцца ягонымі ахвярамі з усімі ведамымі гэтага вынікамі; падзеі з часоў апошняе вайны й прымусовае працы ў Нямеччыне ў характары бясправных «ост-арбайтараў»; жыцьцё і праца ў краінах вольнага сьвету.

Дамінуючая рыса ў творчасьці нашых эміграцыйных аўтараў — гэта шчырыя й глыбокія патрыятычныя эмоцыі. Кажны паэта канкрэтызуе іх па своему, у залежнасьці ад спэцыфічных якасьцяў свайго таленту. Але сіла, глыбіня і праўдзівасьць паэтычнай рэакцыі на ўспаміны аб родным краі, ягоным сяньняшнім лёсе і на ўсьведамленьне сваей адарванасьці ад яго бадай што ў кажнага зь іх узьведзеныя да найвышэйшае ступені. Усьведамленьне выгнанскага лёсу паэты-эміграната і туга за родным краем зьяўляюцца галоўным рухаючым маторам іхнага творчага паэтычнага працэсу.

У многіх творах асабліва такіх аўтараў, як Арсеньнева, Салавей і Крушына, паэтычнае ўспрыйманьне новых і адменных зьяваў на чужыне выклікае, у сілу асацыяцыі або кантрасту, жывыя ўспаміны з роднага краю або пачуцьцёвыя алюзіі да яго. Гэтак, прыкладам, нявыносная ньюёрская сьпякота выклікае ў паэтычным выабражэньні Арсеньневай зусім адменны сваім характарам і пачуцьцёвым успрыйманьнем паэткі абраз беларускага лета:

А ў нас цяпер жыта́ хінуць калосьсе,
дзічкі
на ўзьмежках церпкі плод залоцяць,
у быльлі
палуднічкі гудуць,
а вецер твар казыча.
і сонца п'юць усе, і людзі, і палі.
(«Сьпякота»)

Такое спляценьне двух кантраставых пачуцьцяў, выкліканае ўяўленьнем адменнай чужыны з аднаго боку і далёкай Бацькаўшчыны — з другога вельмі мастацкую канкрэтызацыю знайшло ў словах Салаўя: «О, Афрыка! Крывіччынай была-б ты, каб Нёмнам быў твой поўнаводны Ніл» («Перад вясной»). Гэтак найбольш улюбленымі і найчасьцейшымі паэтычнымі абразамі, пры гэтым глыбака насычанымі настраёвасьцю й эмоцыямі, зьяўляюцца ўяўленьні роднага краю, выкліканыя шляхам асацыяцыі або кантрастаў з жыцьця на чужыне.

Бязьмежная любоў роднага краю, узьнесеная часта да вышыняў рэлігійнага піетызму, і бяздонная туга за ім зьяўляецца тыповай эмацыянальнай рысай гэтае паэзіі. Таму яна авеяная глыбокім сумам, у ёй зьвіняць пераважна мінорныя тоны. Але з асаблівым націскам трэба падчыркнуць, што сумныя й тужлівыя тоны гэтай паэзіі ніколі ня пераходзяць у роспач і безнадзейнасьць. Асноўнай і тыповай рысай гэтае паэзіі ёсьць цьвёрдая й непахісная вера ў будучыню, а частыя ў ёй абнадзейваньні аб бяссумлеўнасьці павароту ў родны край ня выклікаюць пачуцьця штучнага самаабману. Гэта найвымоўнейшы довад, што ані цяжкі й бяспэрспэктыўны лёс, які адарваў нас ад роднага краю і расьсеіў па шырокім сьвеце, ані ўсьведамленьне факту, што край наш і народ крывавяцца пад цяжарам няволі, нас не зламалі духова й ня зьнішчылі веры ў перамогу.

Гэтую жыцьцяздольнасьць і сілу пературываньня дае нашай эміграцыі неразрыўная духовая сувязь з родным краем, як прыгожа гэта выразіла Натальля Арсеньнева ў сваім вершы «Хоць мы лісты»:

Хоць мы лісты, што восенскі віхор,
разгойдаўшы, мяце па далячынях сініх, —
карэньні нашыя ўпіліся у падзол
радзімай глебы і таму —
ня гінем.

Гэтая арганічная сувязь з краем і ўсьведамленьне вялікай творчай сілы народу, моцнага імкненьня да дасканаласьці й хараства родзяць у перакананьні нашых паэтаў непахісную веру ў ягоную будучыню. Прыкладам такога аптымістычнага перакананьня могуць служыць наступныя радкі Ул. Дудзіцкага:

І я ня дам ніколі веры,
што мор надыйдзе хараству!
Усё, жыве і жыць што мусіць,
што сьпеліць зорная асець, —
на хвалях прышласьць прынясе
для несьмяротнай Беларусі!
(«Для несьмяротнай Беларусі»).

З гледзішча мастацкае ўзроўні, прыроджаных здольнасьцяў і літаратурнае культуры нашыя эміграцыйныя паэты й пісьменьнікі, пэўне-ж, не на аднолькавай знаходзяцца вышыні. Ёсьць між імі і таленты сярэдняе якасьці, ёсьць аўтары, якія сябе яшчэ дастаткова ня выявілі, але ёсьць і такія, якія ўжо сябе паказалі, як аўтары высокай якасьці.

Нельга закрываць вачэй і на тое, што нашая мастацкая літаратура на эміграцыі зьяўляецца вельмі сьціплай і абмежаванай, як колькасьцю ейных прадстаўнікоў, гэтак і багацьцем іхнае прадукцыі. Прычыны гэтага добра ведамыя кажнаму, хто скаштаваў усе горычы выгнанскага лёсу. Але ня гледзячы на ўсе злыдні эміграцкага жыцьця, у вадным дачыненьні нашыя паэты на чужыне знаходзяцца ў шмат шчасьлівейшым палажэньні, чымся іхныя сябры па пяру на Бацькаўшчыне, якімі «чула» апякуецца партыя і ўрад, абчэплівае іх ордэнамі ды прызнае сталінскія прэміі. Але калі там на Бацькаўшчыне «чужыя людзі ловяць песьню, каб у вастрог яе загнаць», як вобразна выразіўся Рыгор Крушына, нашыя паэты на эміграцыі, пры ўсім сваім горы і няшчасьці, ашчасьліўленыя тым найвялікшым, чаго на Бацькаўшчыне няма: яны вольныя і могуць свабодна тварыць!

Гэта дае вялікія магчымасьці, але ў роўнай меры і ўскладае на нашых людзей пяра вельмі адказныя абавязкі: захаваць і годна прадаўжаць у прыгожым слове й мастацкім вобразе цягласьць беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі, а таксама ўзмацняць веру ў суродзічаў-эмігрантаў, што дзень вызваленьня прыйдзе. Бо, як прыгожа выразіўся С. Ясень, адзін з наймалодшых паэтаў: «калі ночы ёсьць — мусіць быць Раньне!»

**Ст. Станкевіч**

**Уладзімер Дудзіцкі**

# Выбраныя вершы

**Заканчэньне з № 40-41 (270-271)**

## МАЕМ СІЛУ І КРАЙ СВОЙ

Праўду кажуць: жывем...
Жыць ня хочам так далей мы!
Хіба-ж лёгка
да сьмерці
быць ліху падлеглымі?
Маем сілу
і Край свой
з блакітнымі далямі,
дык ці варта,
скажэце,
жыць белымі нэграмі?
Не...
Зямля — у ярме,
самі — скуты і зморany.
У вязьніцах —
з маленства.
Ні слова ні права нам.
Ўсюды,
вокам ні кінь дзе, —
на сьцежках,
на ворыве
пазяхаюць
у сударгах
раны крывавыя...
Гэта-ж цела братоў
і сясьцёр
пакалечана
на шляхох крыжавых
нячуванаю вушчуняй...
Што-ж маўчыш,
скажы,
годнасьць мая чалавечая,
калі вецер
зьнішчальны
шалее над пушчамі?
Хіба-ж рук мы ня маем,
вачэй сваіх,
розуму?
Ці мо' сонца
на небе
ніколі ня бачылі?
О, пара ўжо разьбіць
сілу
сілаю грознаю, —
няхай кат —
далакоп —
сьлёзы нашы адплача нам!
Права жыць і тварыць —
нам гісторыя выдала.
І цяпер,
як ніколі, —
змаганьне упартае.
Мы пазналі цану
маляванага ідала
і чаго
абяцанкі яго́ныя вартыя.
Нельга далей скарацца,
ўпіваца прынесеным
і клясьціся
да стомы
чужому у шчырасьці...
Гляньце:
Край наш цудоўны расьпялі
й павесілі
на крыжы апляваным...
Як зьдзек такі вынесьці?
Чую голас братоў:
«Жыць ня хочам так далей мы!
Хіба-ж лёгка
да сьмерці
быць ліху падлеглымі?
Маем сілу
і Край свой
з блакітнымі далямі,
дык ці варта,
скажэце,
жыць белымі нэграмі?

**Менск, 17. 1. 1942**

## НААДВАРОТ

**Далакопам...**

Вы кажаце, што не?
А я — наадварот:
і вас люблю, і вашыя парады,
як любіць вас і Край мой, і Народ,
якому не дасьцё ніяк вы рады...

Гаворыце — мана?
Зірнеце на мяне:
які упэўнены юнак і шчыры.
Хіба-ж такога калі сагне,
і змоўкне дзе душы такая ліра?

Ды дзе вы бачылі! —
ніколі і нідзе...
Ад тапара прыйшоў — хлапец вясковы.
Удзень, як дзень — здалося — маладзеў,
мой дух юнацкі сонцам быў раскован.

І ліра — вольніца —
зьвініць яна; краніі —
гудзе, бы звон, сьцірае здрады сьцені...
І слухаюць яе сівыя камяні
і людзі, ранячы жарствой калені.

Ня верыце, пакуль?
І сьмяецёся шчэ?...
О, сьмешныя, дзівацкія няверцы!...
І вас, яна, я ведаю, пячэ,
і вашае крыху кранае сэрца.

Няпраўда, скажаце,
найноўшыя майстры?
Ага, вы — людзі адмысловай маркі...
І нож, відаць, прабуеце гастрыць,
Каб шнур жыцьця майого расьцяла Парка?

Нялюба вам, ці што?
Мо' праўдаю мару?
І сам нялёгкую нясу я вязку...
Яна-ж у петлях спрытных, брудных рук
прымусіць дзесьці кайданамі ляскаць.

Усьцешаны цяпер?
Вы — прагнеце крыві,
ад караля праступеце да туза...
А лёс наважыў, бачу я, скрывіць
ваш хісткі, коўзкі шлях на Сыракузы...

Вы кажаце, што не?
А я — наадварот:
і крыльлі, далакопы, вам у рукі...
Усё, нясе што сяньня мой Народ,
на горб ваш пакладу цяжкія мукі.

**Менск, 8-9. 6. 1931**

## ПЕЛА МНЕ МАЦІ

**(песьня)**

Помню, у час вечаровы
пела мне маці калісьці...
Песьняў тых дзіўныя словы
чую у шэлесьце лісьця.

Пела мне маці калісьці
песьні пра шчасьце і волю...

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

# Дзяды

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

Ды дарма, прысуд мне гэткі:
Грэшны дух я мушу ў целе
Валачыць, аж не надзеліць
Мяне чым, ня змые раны
Хтосьці з вас, маіх падданых.
Ой, як смага мяне паліць!
Каб хоць крышачку вадзіцы!
Ой, каб вы мне дзе прыдбалі
Колькі зерняткаў пшаніцы!

**Хор**

Ой, як смага яго паліць!
Каб хоць кропельку вадзіцы!
Ой, каб мы яму прыдбалі
Колькі зерняткаў пшаніцы!

**Хор начных птушкаў**

Надарма і енкі й словы!
Мы тут чорным карагодам,
Груганы, начніцы, совы,
Слугі, пан, твае калісьці,
Што ты голадам уходаў,
Прагльнём, зьямо ўсё чыста.
Гэй, груган, сава, начніцы!
Войстрай дзюбай, кіпцюрамі
Йрвема стравы на драбніцы!
Хай трымае хлеб у вуснах, —
Мы і з вуснаў вырвем лусту,
І з нутра дастаць параім.
Знаў калі ты літасьць, пане?
Гэй, груган, сава, начніцы!
Дык ня зьлітуюцца й дзеці,
Хлеб пайрвема на драбніцы.
А як хлеба нам ня стане,
Пайрвем цела на драбніцы,
Пакуль косьці не засьвецяць!

**Груган**

Што, галодны скон ня надзіць?
А ці помніш, як калісьці
Я ў тваім знайшоўся садзе?
Йрдзяцца йгрушкі ў жоўтым лісьці...
Быў ня еўшы дні із трое,
Во й абтрос ігрушкаў колькі.
Як на грэх, пабачыў тое
Садаўнік, прыбег, загойкаў,
Нацкаваў сабак... Я толькі
Да варот дабег, зьнячэўку
І злавілі мяне гады.
Ў двор вядуць, на суд, на зраду.
І за што? За йгрушку з дрэўка,
Што ўсім Бог даў на патолю,
Як агонь, ваду ці долю.
Пан, адлі, як крыкне: «Кару
Дам. — усё дрыжэць аж будзе!»
Прыляцелі зь вёскі людзі,
Да сахі мяне ўвязалі
Й пачалі дубцамі пярыць.
Косьці, як із снопу жыта,
Ці гарох з струковін зьвялых
Мне ад скуры ўсе адбіта...
Знаў калі ты літасьць, пане?

**Хор начных птушкаў**

Гэй, груган, сава, начніцы!
Дык ня зьлітуюцца й дзеці!
Йрвема-ж ежу на драбніцы!
А як ежы нам ня стане,
Йрвема цела на драбніцы,
Пакуль косьці не засьвецяць!

**Сава**

Што, няўнадны скон галодны?
А ці помніш, як пад сьвята,
Пад Куцьцю, ў мароз, 'шчэ до дня
Я у двор прыйшла зь дзіцяткам.
«Мой паночку, я прасіла,
Пашкадуй мае сіроты!
Ў двор дачку ты ўзяў. Зьнясілеў
І памёр мужык. З турботы
Маці зьлегла, як на тое.
Пры грудзёх крычыць малое.
Памажы, мая ты краска,
Падары, панок, чым ласка!»
Ды ці ё ў вас, пане, душы?
Ты, п'ючы ў п'яной ахвоце,
Сам у срыбры, ў пазалоце,
Гайдуку наказ даў сьціха:
«Хто бубніць гасьцём у вушы?
Прагані яе да ліха!»
Ўзяў мяне гайдук няцнота
Й выцяг зь дзіцем за вароты,
Проста ў сьнег, бы кучу латаў!
З болю, страху, у зьнямозе,
Не дайшла, ніяк, да хаты.
Так і зьмерзла на дарозе...
Знаў калі ты літасьць, пане?

**Хор начных птушкаў**

Гэй, груган, крумкач, начніцы,
Дык ня зьлітуюцца й дзеці!
Йрвема-ж ежу на драбніцы!
Калі-ж ежы нам ня стане, —
Йрвема цела на драбніцы,
Пакуль косьці не засьвецяць!

**Здань**

Ой, нямаш, нямаш мне рады!
Надарма падносіш місы:
Ўсё пайрвуць, як зракліся.
Ой, ня мне Дзядоў абрады!
Буду гінуць так век па веку:
Справядлівы прысуд Твой, Божа!
Хто ніколі ня быў чалавекам,
Чалавек таму не паможа.

**Хор**

Будзе гінуць так век па веку:
Справядлівы прысуд Твой, Божа!
Хто ніколі ня быў чалавекам,
Чалавек таму не паможа!

**Гусьляр**

Як ніхто ўжо не паможа,
Дык ідзі сабе, нябожа!
Хто-ж ня дасьць на просьбы вуха —
Ймём Айца і Сына й Духа!
Ці бачыш Божы крыж?
Ня кратаеш ежы, і годзе,
Пакінь нас тады у згодзе,
А кыш, а кыш!

**Хор**

Як ніхто ўжо не паможа,
Дык ідзі сабе, нябожа!
Хто-ж ня дасьць на просьбы вуха,
Ймём Айца і Сына й Духа!
Ці бачыш ты Божы крыж?
Ня кратаеш стравы, і годзе,
Пакінь нас тады у згодзе,
А кыш, а кыш!
(Здань гіне).

**Пераклад Натальлі Арсеньневай**

**Кастрычнік 1955**

грубаватыя выхадкі ці звароты непасрэдна да яго ён прапускаў між вушэй, ведаючы той грубы асяродак, зь якога вышлі, і маючы на ўвазе, што з часам усё гэта згладзіцца няпрыметна, само сабою, пад уплывам школьнага парадку і ладу, які будзе залежаць, галоўным чынам, ад яго самога. Усе іх памылкі ў гэтым сэньсе ён стараўся выправіць і адзначыць так, каб не пакрыўдзіць і ня ўразіць чулае дзіцячае сэрца.

Першыя крокі былі зроблены. Дзеці разварушыліся, павесялелі і вышлі з таго стану замкнёнасьці, у якім яны яшчэ так нядаўна былі. Лабановіч, крыху пагутарыўшы, пусьціў іх на пераменку. А гэтым часам пад'ехаў і а. Кірыл. Зайшлі ў пакоік настаўніка, пагутарылі пра сёе-тое, пакуль пазьбіраліся дзеці. Айцец Кірыл зараз-жа сабраўся і разам з настаўнікам пайшоў у школу. Там ён, не затрымліваючыся, адправіў кароткі малебен, сказаў невялічкае казаньне дзецям, у якім клікаў іх да навукі, да паслушэнства і, пажадаўшы здароўя і разуменьня, даў пацалаваць крыж і акрапіў іх сьвятой вадою.

Пасьля малебну настаўнік сказаў вучням перадаць сваім таварышам, каб заўтра ўсе прыходзілі ў школу, і пусьціў іх дадому.

Зь вясёлым шумам і крыкам выбеглі дзеці на вуліцу, напаўняючы яе звонкімі галасамі, і рассыпаліся па хатах. На сваім уласным вопыце пачулі яны, што школа і настаўнік далёка не такія страшныя, як гэта складалася ў іх галаве.

Айцец Кірыл адмовіўся застацца выпіць чаю на дарогу, бо дзень кароткі, а дарога паганая. На разьвітаньне папрасіў ён Лабановіча выкладаць закон Божы, бо яму далёка езьдзіць сюды.

— А наконт... пэнсіі мы пагодзімся, падзелім яе бяз крыўды.

Настаўнік, хоць і зь неахвотаю, згадзіўся.

— Прыязджайце да нас, будзем вельмі рады, — сказаў а. Кірыл, ужо седзячы на каламажцы.

Лабановіч застаўся адзін. У пакоіку стала так ціха, што ён мімаволі зьвярнуў на гэта ўвагу. І была ў гэтай цішы маркота, якую пачуў ён тут першы раз. Яго пацягнула на сьвежае паветра, на волю. Тут ён прыпомніў, што сын самага блізкага суседа яго, пана падлоўчага, хоць і мае хадзіць вучыцца, ня прышоў. І ня прышоў напэўна з тае прычыны, што падлоўчы ня лічыў шляхэтным пасылаць сына, не пабачыўшыся і ня перагаварыўшы з настаўнікам, бо ён тут чалавек новы, незнаёмы. Сам-жа падлоўчы не належаў да тутэйшага насельніцтва, патрэбы якога абслугоўвала гэта школа.

Пасьля абеду Лабановіч сабраўся прайсьціся. Ён вышаў на двор. На вуліцы было столькі гразі, што перайсьці яе ў настаўніка не хапіла адвагі, і ён павярнуў на поле, дзе стаялі два ветракі, і зараз-жа вышаў на вузкую сьцежку, якая вяла на чыгунку. Гэта было адзінае месца, дзе можна было хадзіць, не баючыся гразі. Узышоўшы на чыгунку, настаўнік прыпыніўся, як-бы разважаючы, у які канец накіравацца. Вакол было ціха. Далёка беглі ўздоўж дарогі высокія тэлеграфныя слупы зь белымі гугачкамі і роўна нацягнутым дротам. Ветру ня было, а дрот бесьперастанку гуў прыемным звонам, ціхім, аднатонным і жаласным, як казка гэтых панурых лясоў і балот Палесься. З боку разьезду чыгунка, пралёгшы спачатку раўнюсенечкаю сьценкаю, праз вярсту рабіла залом і гублялася дзесь у лесе. У процілежным баку дарога ішла роўна на далёкай адлегласьці. Было навет відаць, як выступаў з далечы дамок трэйцяй будкі. Адтуль ледзь прыметна пасоўвалася чалавечая постаць. І трудна было вызначыць, куды яна ідзе: сюды ці ў другі бок. Гэтая малюсенькая фігурка адна, здавалася, ажыўляла гэты пануры і ціхі краявід, дзе ўсё як-бы зьнікла або прытаілася.

— Пайду насустрач, — вырашыў Лабановіч.

Фігурка была так далёка, што мела выгляд тоненькага маленькага калочка. Яна ішла сюды, але трудна было адгадаць, хто гэта быў: мужчына ці кабета. Адлегласьць між Лабановічам і фігуркаю зьмяншалася.

Мінуўшы яшчэ колькі слупоў, настаўнік мог пазнаць, што гэта была кабета, і ён перастаў ёю цікавіцца, а пачаў разглядаць лес і балоты побач дарогі, мосьцікі, рачулкі і ўсё, што больш-менш кідалася ў вочы. Настаўнік зусім забыўся аб тым, што яго перш так зацікавіла, зьвярнуў на гэта ўвагу толькі тады, калі між ім і тым, хто ішоў яму на спатканьне, была адлегласьць толькі ў два слупы. Цяпер ён заўважыў, што гэта была высокая, стройная дзяўчына, вельмі добра, навет з густам адзетая.

Дзяўчына здалёк колькі разоў бачліва акідвала поглядам незнаёмага маладога хлопца, а падышоўшы бліжэй, апусьціла вочы. Лабановіч таксама ня лічыў далікатным разглядаць яе. Але як толькі яны параўняліся, дык зірнулі адно на аднаго, і погляды іх спаткаліся. Незнаёмая дзяўчына, як-бы спалохаўшыся, зноў борзьдзенька апусьціла свае чорныя, як смоль, вочы. Лабановіч, зблізку ўбачыўшы яе твар з бліскучымі прадаўгаватымі вачамі, зьлёгку здрыгануўся: дзяўчына была нязвычайна прыгожая. Прайшоўшы крокі тры-чатыры, Лабановіч азірнуўся, каб яшчэ раз глянуць на яе. Тое самае зрабіла і зацікавіўшая яго дзяўчына. Яна, мусіць, не спадзявалася выдаць сябе такім чынам, і з губ яе сама сабою зьбегла прыемная і павабная ўсьмешка, пасьля чаго дзяўчына пайшла шпарчэй і ўжо не аглядалася.

Лабановіч, як прычараваны, стаяў колькі хвілін і ўсё пазіраў на яе. Яму было прыемна, нейкая радасьць разьлівалася ў крыві. Ён пайшоў далей, думаючы аб гэтай незнаёмай дзяўчыне. Яе чорыя вочы, белы твар і гэта чароўная ўсьмешка так і стаялі перад ім, як намаляваныя. «Хто-ж-бы гэта была такая?» — пытаў ён сябе. Гэта, напэўна, з будкі, тая дзяўчына, аб якой казала яму бабка. Відаць, яна ішла ў вёску да крамніка, каб купіць чаго. «Трэба было, — думаў ён, — пазнаёміцца і правесьці яе да вёскі». Ён пачынаў наракаць на сябе за сваю нясьмеласьць. Іншы на яго месцы знайшоў-бы дваццаць зачэпак, каб зьвярнуцца да яе далікатна і проста і такім чынам пазнаёміцца, супраць чаго яна, напэўна, нічога ня мела-б.

Узважыўшы ўсё за і супраць, Лабановіч прыйшоў да перакананьня, што ён зрабіў добра, не зачапіўшы дзяўчыны. А вось, калі зноў спаткае яе, як сяньня, адзін на адзін, тады няіменна павітаецца, бо яны ўжо як-бы крыху знаёмыя. Дайшоўшы да трэйцяй будкі, Лабановіч вярнуўся назад у надзеі, што ён зноў сустрэне дзяўчыну на дарозе. Ён прайшоў адну будку і другую, мінуў ужо і пераезд каля свайго сяла, але дзяўчыны нідзе не спаткаў. Ці не пайшла яна на разьезд, сабраўшыся куды-небудзь паехаць? А можа, яна зусім ня тутэйшая і больш ніколі ня зьявіцца тут? Але ў яго душы надоўга застанецца гэты прыгожы вобраз дзявочае красы. Лабановічу стала чагось шкада, як-бы ад яго нешта адарвалася і зьнікла.

У лесе і ў палёх пачынала цямнець, шэры асеньні вечар борзда апускаўся на зямлю; разам зь ім нейкі смутак лажыўся на гэтыя пацямнелыя далі. Уся мясцовасьць зьмяніла выгляд, як-бы ў сабе самой, аддаўшыся сваім думкам і свайму настрою, а ўсё іншае для яе стала чужым і няцікавым.

Лабановіч дайшоў да сьцежачкі каля ветракоў і накіраваўся ў школу.

## IX

Пан падлоўчы быў родам дзесь з Горадзеншчыны і паходзіў, як ён казаў сам, із старога дваранскага роду. Тутэйшае жыхарства лічыла яго Паляком, сам-жа пан падлоўчы з гэтым не згаджаўся.

«Я — Ліцьвін», — зь нейкаю гордасьцю зазначаў пан падлоўчы, і сваю належнасьць да Ліцьвіноў даводзіў, паміж іншым, і тым, што яго прозьвішча — Баранкевіч — мела канчатак на «іч», тады як чыста польскія прозьвішчы канчаюцца

